І. І. Паўлоўскі, Л. Ф. Леўкіна

# Беларуская мова

Падручнік для 2 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

У дзвюх частках

Частка 1

*Зацверджана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

3-е выданне, выпраўленае і дапоўненае



МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2016

УДК 811.161.3(075.2=161.3)
ББК 81.2Беи-922
П21

Р э ц э н з е н т

кафедра беларускага і рускага моваznaўства
факультэта пачатковай адукацыі ўстановы адукацыі
«Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка»
(дацэнт кафедры, кандыдат педагагічных навук *Н. М. Антановіч*)

Спіс выкарыстанай літаратуры знаходзіцца ў другой частцы падручніка.

## Умоўныя абазначэнні:

 — дамашняе заданне;

 — правіла;

 — для азнаямлення;

 — пытанні да тэмы;

 — развіццё мовы вучняў;

 — урок ветлівасці;

.. — пропуск літары або некалькіх літар;

... — пропуск слова.

ISBN 978-985-559-638-8 (ч. 1)
ISBN 978-985-559-637-1



# РОДНАЯ МОВА

## Беларуская мова як дзяржаўная мова Рэспублікі Беларусь

**1.** Разгледзьце малюнкі. Для чаго людзям патрэбна мова?










Складзіце сказы па малюнках.



**2.** Прачытайце. Якія бываюць мовы?

На свеце шмат розных народаў. Гэта беларусы, рускія, украінцы, палякі, немцы, французы і іншыя. У кожнага народа свая мова.

Мы — беларусы. Наша родная мова — беларуская.

Спішыце апошні сказ.

**3.** Прачытайце словы. На якіх мовах яны напісаны?

Радзіма — Родина, маці — мать, настаўнік — учитель.

Запішыце беларускія словы.

*Радзі́ма*

**4.** Прачытайце. З чаго пачынаецца Радзіма?

Лепей за ўсё мне на свеце мясціна
тая, дзе я нарадзіўся і ўзрос.
Бэз пад акном і на полі каліна...
Ціхае сонца, блакіты нябёс...

*К. Кірэнка.*

Вывучыце верш на памяць.



**5.** Прачытайце сказы. Спішыце іх.

*Мова яднае людзей. Яна дапамагае дружна жыць і працаваць.*

## Вусная і пісьмовая мова



### Якая бывае мова?

**6.** Разгледзьце малюнкі. Раскажыце, што на іх адлюстравана.











Складзіце сказы па малюнках і запішыце іх.



Мова можа існаваць у вуснай або пісьмовай форме.

**Вусная мова** ўзнікае тады, калі мы гаворым або слухаем іншых людзей.

**Пісьмовая мова** — гэта напісанае ў сшытку, надрукаванае ў кнізе, часопісе, газеце.

**7.** Прачытайце загадкі і адгадайце іх. У вуснай ці пісьмовай мове карыстаюцца літарамі?

1. Крылаў не мае,
   але хутка лятае.
2. На белым полі
   чорныя авечкі пасуцца.

Запішыце адгадкі.

**8.** Прачытайце. Якой мовай, вуснай ці пісьмовай, вы будзеце карыстацца пры чытанні?

### Мой сшытак

У кожнага вучня ёсць сшытак для пісьма. На ўроках беларускай мовы настаўніца просіць вучняў разгарнуць сшыткі. Дзеці

бяруць ручкі і старанна запісваюць словы: **мама, Радзіма, мір, сонца** *(Паводле В. Ткачова)*.

Спішыце выдзеленыя словы. Чаму гэтыя словы самыя дарагія кожнаму чалавеку?

**9.** Разгледзьце малюнкі. Для чаго патрэбны гэтыя прылады? Якімі прыладамі для пісьма людзі карысталіся раней? Якімі прыладамі карыстаюцца цяпер?



Вусна складзіце сказ са словам *камп'ютар*.



**10.** Прачытайце сказы і спішыце іх.

*Мову стварае народ. Усё лепшае застаецца ў кнігах.*



## З чаго складаецца мова?

**11.** Разгледзьце малюнак. Да якой ён казкі?



Якой мовай, вуснай ці пісьмовай, вы будзеце карыстацца, расказваючы казку?

**12.** Прачытайце сказы. Звярніце ўвагу на іх афармленне.

Казкі ўзніклі вельмі даўно. Людзі перадавалі ў іх сваю мару пра добрае жыццё.

Спішыце сказы.



Наша мова складаецца са сказаў, а сказы — са слоў.

*У пісьмовай мове трэба:*

✓ кожны сказ пачынаць пісаць з вялікай літары;

✓ у канцы сказа ставіць знак прыпынку (кропку, клічнік або пытальнік);

✓ кожнае слова ў сказе пісаць асобна.

**13.** Прачытайце. Як вы разумееце гэтыя словы?

Роднае слова! З малых дзён чуем мы цябе з матчыных вуснаў. Ты нам тлумачыш усе дзівы свету *(Цётка)*.



**14.** Прачытайце словы. Складзіце з іх сказы і запішыце.

Я, народныя, чытаць, казкі, люблю.
У, дабро, казках, перамагае, зло.



## Словы вітання

**15.** Прачытайце. Калі ўжываюцца гэтыя сказы?

Добрага здароўя! Добрага ранку! Дзень добры! Добры вечар!



Разгледзьце малюнак. Якімі словамі маглі прывітаць адзін аднаго зайцы?

**16.** Прачытайце. Якімі словамі Волечка прывітала маму і дзядулю?

### Раніца

— Добрага дня, дачушка! Пара ўставаць, збірацца ў школу.

— Добрай раніцы, мама! Я ўжо прачнулася.

— Добрага здароўя, дзядуля!
— Добрага здароўя, Волечка!

Выпішыце словы вітання.

**17.** Прачытайце верш. Для чаго існуюць словы вітання?

**Чатыры пажаданні**

Добра, калі ты змалку
можаш вітаць людзей.
Раніцай: «Добрага ранку!»
І апаўдня: «Добры дзень!»
Увечары пры сустрэчы
знаёмым сказаць: «Добры вечар!»
А сoннаму сонейку нанач
і ўсім добрым людзям: «Дабранач!»

*В. Вітка.*

Выпішыце словы вітання.

**18.** Прачытайце прыказкі. Чаму так гавораць?

Як ты да людзей, так і людзі да цябе.
З кім павядзешся, ад таго і набярэшся.

Запішыце адну з прыказак па памяці.



**19.** Прачытайце.

Скончыліся ўрокі. Дзеці апрануліся і пачалі развітвацца.

Пеця сказаў:

— Да пабачэння, Кацярына Іванаўна.

Коля прамовіў:

— Усяго добрага.

Маша пажадала ўсім:

— Бывайце здаровы.

Іншыя дзеці гаварылі:

— Усяго найлепшага.

— Да заўтра.

— Да сустрэчы.

Як вы развітваецеся? Якія словы ўжываеце?

Выпішыце словы, якімі карыстаюцца пры развітанні.

## Праверце сябе

**1.** Як называецца наша родная мова?

**2.** Чым адрозніваецца вусная мова ад пісьмовай?

**3.** Якія словы ўжываюцца пры сустрэчы і развітанні людзей?



# ГУКІ І ЛІТАРЫ

## Гук як адзінка мовы



З чаго складаюцца словы?

**20.** Прачытайце. Назавіце гукі ў выдзеленых словах.

Наш **клас** вялікі і светлы. У класе стаяць парты, стол, **крэсла**, шафы. На сцяне вісіць дошка.

Настаўніца чытае **верш** пра наш родны край. Усе **вучні** ўважліва слухаюць.



Словы складаюцца з гукаў.
Гукі мы вымаўляем і чуем.

**21.** Назавіце гукі ў кожным слове. Якімі гукамі адрозніваюцца пары слоў?

дом — дым
сок — сук

каза — лаза
карта — парта

**22.** Прачытайце. Падбярыце словы парамі, каб яны адрозніваліся адным гукам. Назавіце гукі, якімі адрозніваюцца словы кожнай пары.

| | |
|---|---|
| Кот. Жар. Мышка. | Шар. Кут. Мошка. |
| Гара. Каса́. Сон. | Каза. Нара. Сом. |

Часам патрэбна паказаць, як вымаўляецца слова ці асобны гук у слове. Тады карыстаюцца квадратнымі дужкамі [ ]: [кн’іга], вуча[н’].

**23.** Прачытайце скорагаворкі. Якімі гукамі адрозніваюцца выдзеленыя словы?



Мама кліча **Клаву** піць **каву**.

**Жору жораў** жуpaïвінамі частаваў.

Навучыцеся правільна вымаўляць скорагаворкі.

**24.** Падбярыце словы, якія будуць адрознівацца адным гукам. Ці змяняецца сэнс слоў пры змяненні гука?

Ночы — ..., шар — ..., рака — ..., лёд — ... .

Запішыце словы па ўзоры.

Узор: *кот — кут*.

**25.** «Збярыце» тры словы з гукаў.






**26.** Прачытайце. Дадайце да слова адзін гук, каб атрымалася новае слова.

Мель, рот, мех, кран.




Запішыце словы па ўзоры.

Узор: *лён — клён*.

# Абазначэнне гукаў літарамі на пісьме



Як абазначаюцца гукі на пісьме?
Якая розніца паміж гукам і літарай?

**27.** Прачытайце. Назавіце гукі ў словах. Якімі літарамі яны абазначаны?

Стол, акно, столь, канапа, дыван.

У якім слове літар больш, чым гукаў? Якая літара не абазначае гука?



Гукі мовы на пісьме абазначаюцца літарамі.

Пры дапамозе літар можна запісаць або прачытаць словы.

**28.** Прачытайце. Чаму так гавораць?



Верасень верасам восень вітае.

Як вымаўляецца гук, абазначаны літарай ***в***, у кожным слове сказа?

Запішыце сказ па памяці.

**29.** Назавіце гукі ў кожным слове. Якія гукі ў словах абазначаны дзвюма літарамі?

Дзяцел, дзюба, сяджу, дзяўбе, мядзведзі, дажджы.



Гукі [дз’], [дж] на пісьме абазначаюцца дзвюма літарамі: *ураджай, агароджа, дзеці, дзядуля.*

**30.** Прачытайце сказы ў патрэбнай паслядоўнасці і запішыце тэкст.

4. Пайшоў дождж.
2. Хмары навіслі над зямлёй.
3. Стала цёмна.
1. Падзьмуў вецер.

*дождж*

Падкрэсліце спалучэнні літар ***дз, дж***.



**31.** Знайдзіце і запішыце словы па ўзоры.



Кошка, рака, рыбак, пясок.

У з о р: *экран — кран.*



## За што трэба дзякаваць

**32.** Прачытайце. За што і калі дзякуюць?

Сярожа запрасіў Максімку ў госці. Бабка Мар'я згатавала ім смачны абед. Хлопцы наеліся і вылезлі з-за стала.

— Дзякуй, — сказаў бабцы Мар'і Максімка.

— Расці вялікі, — адказала бабка госцю. — А ты, Сярожа, чаму не дзякуеш?

Сярожа здзівіўся:

— Навошта дзякаваць? Я ж дома.

Але бабка Мар'я не пагадзілася:

— Дзякуй — тое слова, якое ўсе добрыя людзі кажуць. Мне дзякуй, што накарміла вас, а Максімку — за тое, што прыйшоў у госці. Кожнаму трэба паважаць чужую працу, чужую ласку.

— Дзякуй, дарагая бабуля, — нарэшце сказаў Сярожа.

— На здароўе, унучак, — ласкава адказала яна *(Паводле У. Паўлава)*.

Выпішыце словы ветлівасці.

**33.** Прачытайце. Выпішыце словы падзякі.

Дзякуй. Шчыры дзякуй.

Добры дзень. Вельмі ўдзячны вам.

Да пабачэння. Дзякую вам.

**34.** Разгледзьце малюнкі. Раскажыце, хто каму павінен выказаць падзяку.






Вусна складзіце сказы са словамі ўдзячнасці.

**35.** Прачытайце. Пра што гаворыцца ў вершы?

## Пакланіся
## добрым людзям

Век дзяліся тым, што маеш, —
хлебам-соллю, казкай-краскай.
Ну а ў госці запрашаеш,
гавары ўсім:
— Калі ласка!
А з табой як тое будзе,
то за шчыры знак усякі
пакланіся добрым людзям
і скажы ім шчыра:
— Дзякуй!

*У. Паўлаў.*

Выпішыце словы запрашэння і падзякі.

**36.** Прачытайце прыказкі. Як вы іх разумееце?

Ласкавае слова — што дзень ясны.
Добрае слова не забываецца.
Добрае слова да сэрца даходзіць.

Спішыце адну з прыказак.



**37.** Прачытайце. Выпішыце словы ветлівасці.

Знік аднойчы мой коцік.

Пайшоў я да суседзяў шукаць свайго Ваську.

— Добры дзень! Ці не заходзіў да вас мой коцік?

— Не, — адказвае суседка.

— Прабачце мне, калі ласка. Да пабачэння *(Паводле Я. Брыля)*.

Вусна прыдумайце працяг апавядання пра тое, як хлопчык знайшоў свайго коціка.

## Алфаві́т



Што такое алфавіт?
Калі карыстаюцца алфавітам?

**38.** Прачытайце назвы літар на форзацы падручніка. Як называецца такі парадак літар?



Усе літары, размешчаныя ў пэўным парадку, складаюць алфавіт. У сучасным беларускім алфавіце 32 літары. Кожная літара мае сваю назву.

**39.** Напішыце імёны дзяцей, якія пачынаюцца на першую, трэцюю і восьмую літары алфавіта.

*Алесь, ... .*

**40.** Прачытайце словы. Размясціце іх у алфавітным парадку.

Месяц, герой, перамога, памяць, Радзіма, подзвіг.

**41.** Запішыце назвы гародніны ў алфавітным парадку.







**42.** Расшыфруйце словы. Для гэтага размясціце літары ў алфавітным парадку.

осль    наок    мтсо

Запішыце словы.



**43.** Выпішыце са слоўніка (с. 132) з раздзела «Адзенне і абутак» словы, якія абазначаюць абутак, у алфавітным парадку.

**44.** Запішыце слова, першая літара якога стаіць у алфавіце за літарай ***ч***, другая — за літарай ***й***, трэцяя — перад літарай ***п***, чацвёртая — за літарай ***к***, пятая — перад літарай ***б***.

З атрыманым словам складзіце і запішыце сказ.

**45.** Прачытайце прозвішчы аўтараў кніг.




Запішыце прозвішчы пісьменнікаў у алфавітным парадку.

**46.** Прачытайце. Запішыце сказ па памяці.

Мінск — сталіца Беларусі.

Якія яшчэ беларускія гарады вы ведаеце? Запішыце іх назвы ў алфавітным парадку.

**47.** Прачытайце. Назавіце птушак, якія водзяцца ў Беларусі.

У нашым краі — Беларусі —
ёсць буслы, сарокі, гусі,
качкі, кнігаўкі, саколкі,
чаплі, совы, перапёлкі...

*А. Гурло.*

Выпішыце з верша назвы птушак у алфавітным парадку.

**48.** Прачытайце словы, якія пачынаюцца з літары ***б***. Растлумачце, чаму яны напісаны іменна ў такім парадку.

Бальзамін, банан, боб, бра́ткі, бручка, бук, бульба, бурак, бэз, бяроза.



**49.** Прачытайце. Запішыце назвы звяроў у алфавітным парадку.

*Заяц, голуб, лісіца, вожык,*
*конь, мядзведзь, сава, бабёр,*
*дзік, казуля, лось, зубр.*

# Абазначэнне галосных гукаў на пісьме



Чаму галосныя гукі атрымалі такую назву?

**50.** Прачытайце. Назавіце галосныя гукі ў словах. Якімі літарамі яны абазначаны?

Зоркі, месяц, неба, кветкі, луг, дрэва, лес, рэха, рэчка, бабры, люстэрка, вёска, зямля, сябар.

Спішыце словы першага радка. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць галосныя гукі.



Галосных гукаў 6: [а], [о], [у], [ы], [і], [э].

Галосныя вымаўляюцца з удзелам аднаго толькі голасу.

Для абазначэння шасці галосных гукаў ужываецца 10 літар: ***а, о, у, ы, і, э, е, ё, ю, я.***

**51.** Замяніце ў кожным слове літару галоснага гука так, каб атрымалася новае слова.

Сон — с..н, бык — б..к, рука — р..ка, ліпа — л..па, рэчка — р..чка.

Запішыце словы парамі. Падкрэсліце літары галосных гукаў.



**52.** Прачытайце тэкст. Назавіце галосныя гукі ў словах першых двух сказаў.

### Малюнкі восені

Хораша ў асеннім лесе. Пад нагамі рознакаляровы дыван. Залатыя лісточкі сыплюцца з бярэзінак. Чырванеюць гронкі рабіны. Яны надаюць лесу асаблівую ўрачыстасць. Адны толькі сосны і елкі стаяць зялёныя *(Паводле Я. Коласа)*.



Адкажыце на пытанні.

1. Ці былі вы восенню ў лесе (у парку)?
2. Як выглядаюць бярозкі?
3. У які колер апрануты рабіны?
4. Якія дрэвы не спяшаюцца скідаць убор?



**53.** Спішыце. Падкрэсліце ў словах другога сказа літары, якія абазначаюць галосныя гукі.

**Залатая восень багатая на маляўнічыя фарбы. Усё навокал гарыць каляровай лістотай.**

## Літары *е, ё, ю, я, і*



Калі літары ***е, ё, ю, я, і*** паказваюць на мяккасць папярэдняга зычнага?

Калі літары ***е, ё, ю, я, і*** абазначаюць два гукі?

**54.** Прачытайце. Якая розніца ў вымаўленні гукаў кожнай пары слоў? Якія літары паказваюць, што папярэдні гук вымаўляецца мякка?

| | |
|---|---|
| **нос — нёс** | **сад — сядзь** |
| **лук — люк** | **цэны — цені** |

**55.** Прачытайце. Якія гукі абазначаюць выдзеленыя літары? На што яны паказваюць?

Дз**е**нь, с**ё**нн**я**, с**я**бар, л**ю**дз**і**.

**56.** Прачытайце. Назавіце ў словах галосныя гукі. Якія гукі абазначаны выдзеленымі літарамі?

Надвор’**е**, **ю**нак, ліле**я**, шчаўе, з’**я**ва, пашталь**ё**н.



Літары ***е, ё, ю, я, і*** абазначаюць два гукі, калі стаяць:

✓ у пачатку слова *(**Ю**ра)*; [й’у]

✓ пасля галосных *(за**я**ц)*; [й’а]

✓ пасля апострафа *(вераб’**і**, пад’**ё**м)*; [й’і] [й’о]

✓ пасля раздзяляльнага **ь** *(ль**е**цца)*. [й’э]

**57.** Прачытайце. Якія гукі абазначаюць выдзеленыя літары?

| | | | |
|---|---|---|---|
| мак | юнга | ёрш | абед |
| мяч | цюлень | цёмны | крэсла |
| маяк | цукар | восень | елка |

Выпішыце словы, у якіх літары ***е, ё, ю, я*** абазначаюць два гукі.

*экску́рсія*

**58.** Прачытайце словы. Складзіце і запішыце з іх сказ.

Дзеці, лес, пайшлі, на, ў, экскурсію.

Назавіце слова, у якім адной літарай абазначаны два гукі.



**59.** Запішыце імёны ў алфавітным парадку. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць галосныя гукі. У якім слове літара ***ю*** абазначае два гукі?

Вера, Коля, Юля, Міша, Люба, Барыс, Андрэй.

**60.** Прачытайце. Выпішыце словы, у якіх літара ***я*** абазначае два гукі.

Ячмень, **вяргіня**, фіялка, ясень, таполя, бяроза, вярба, яліна, **яблыня**, ядловец, вяз, мята.

З выдзеленымі словамі складзіце і запішыце сказы.

**61.** Дапішыце сказы. Падбярыце назвы дрэў з папярэдняга практыкавання.

Стаіць у лесе зялёная ... . Звесіла голле белая ... . У садзе расце маладая ... .

**62.** Прачытайце словы.

П..ч, в..ска, руча..к, ..гады, л..стэрка, м..чык, ..лачка, мал..нак.




Запішыце словы, устаўляючы прапушчаныя літары. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць два гукі.



**63.** Прачытайце. Раскажыце, дзе можна гуляць, каб пазбегнуць небяспекі.

**Ты гуляеш з сябрамі ў футбол. Раптам мяч пакаціўся на шашу. Што ты будзеш рабіць? Пабяжыш даганяць мяч? Спыніся! Паглядзі, ці не едзе па шашы машына. Паспяшаешся — і мяч не выратуеш, і сам у бяду трапіш.**

Запішыце словы з выдзеленымі літарамі ў два слупкі. У адзін слупок — тыя словы, у якіх выдзеленая літара абазначае два гукі. У другі — словы, у якіх выдзеленая літара абазначае галосны гук і мяккасць папярэдняга зычнага.



**64.** Спішыце. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць два гукі.

*Мы любім блакітныя рэкі, густыя дубровы і бязмежныя палі. Гэта наш край.*

## Падзел слоў на склады



**Як даведацца, колькі ў слове складоў?**

**65.** Прачытайце тэкст.



Многія любяць пахадзіць па лесе. Але часам здараецца, што чалавек заблу́дзіцца. І тады ён кліча на дапамогу: ма-ма, та-та, Ю-ра, Кос-ця.

Словы нібы распадаюцца, дзеляцца на склады.

**66.** Прачытайце словы па складах.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| на | дах | хлеб | шпак | страх |
| ау | Зоя | рака | мова | слова |

Параўнайце колькасць галосных гукаў у словах кожнага слупка з колькасцю складоў у гэтых жа словах. Ці ёсць розніца? Што ўплывае на колькасць складоў у слове?



**У кожным складзе абавязкова ёсць галосны гук.**

**Каб палічыць склады ў слове, трэба палічыць галосныя.**

**Колькі ў слове галосных, столькі і складоў:** *цень* **(1 склад),**
*ця-нёк* **(2 склады),**
*ця-нё-чак* **(3 склады),**
*ча-ра-па-ха* **(4 склады),**
*са-ра-ка-но-жка* **(5 складоў).**

**67.** Прачытайце словы. Колькі складоў у кожным слове?

Унук, унучка, дзядуля, цётка, сястра, сын, дачка, брат, бабуля, прабабуля.

Назавіце словы, у якіх ёсць склады без зычных. Ці ёсць склады без галосных? Чаму?

Выпішыце словы, у якіх тры склады.

**68.** Прачытайце. Змяніце словы так, каб у іх было па два склады.

*Нож — нажы*, куст, луг, сад, дом.

Запішыце. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць галосныя гукі.

**69.** З прапанаваных складоў складзіце і запішыце назву кветкі, грыба, дрэва.

пі па вік ро
ня на за
во сі да бя



**70.** Прачытайце словы і спішыце іх. Зверху над словамі лічбай абазначце колькасць складоў.

*Двор, горад, вёска, вуліца, пляцоўка, раўніна, узгорак, паляна, лес, поле, рака.*

**71.** Прачытайце. Вызначце, колькі складоў у кожным слове.

**Сябар**, сяброўка, сябры, ліст, лісток, дубочак, дрэва, клён, дрэўца, дождж, дожджык, **сонейка**.

Складзіце і запішыце сказы з выдзеленымі словамі.

*ся́бар*

**72.** Прачытайце прыказку. Як вы яе разумееце?

Чалавек без сяброў, што дрэва без каранёў.

Спішыце, падзяляючы словы на склады.

**73.** Прачытайце і адгадайце загадку.

**Разумная, добрая, шчырая,**
стварае яе чалавек.
Дарогу да ведаў адкрые нам,
сяброўкаю стане навек.

*М. Пазнякоў.*




Спішыце загадку, падзяляючы выдзеленыя словы на склады.

**74.** Прачытайце тэкст. Раскажыце, як і чаму трэба берагчы кнігу.

### Беражыце кнігу

Бярыце кнігу чыстымі рукамі. Акуратна перагортвайце старонкі. Не загінайце старонак. Памятайце: кніга — крыніца ведаў.

**75.** Прачытайце верш. Выпішыце выдзеленыя словы, падзяляючы іх на склады.

Прад табой — старонкі кніг
з мілым, любым, родным словам.
Там бруіцца наша мова —
мова **прадзедаў** тваіх.
Кніга ж — мудрасці глыток,
ты палюбі **яе** спачатку.
І **засвоіш** ты, **дзіцятка**,
што яна — да ведаў крок.

*К. Жук.*



**76.** Спішыце прыказкі. Падкрэсліце літары, якімі абазначаны галосныя гукі.

Кніжка чалавеку — што ліпа пчолцы.
Кнігі чытаеш — свет адкрываеш.

## Падзел слоў для пераносу



Як падзяляюцца словы для пера-
носу?

**77.** Прачытайце. Знайдзіце словы, якія не змясціліся на адным радку. Як іх падзялілі для пераносу?

### Мая вёска



Да лесу прытулілася
невялікая вёсачка Ма-
лая Гаць.

Мясціны тут сапраў-
ды прыгожыя. На зялё-
ных лугах пасуцца стат-
кі. Астраўкамі сярод лу-
гоў і палёў параскіданы
пералескі.

А дзецям тут раздол-
ле! Бегаюць яны летам у
бліжэйшы лясок у гры-
бы і ў ягады.

Звініць усё наваколле іх галасамі *(Па-
водле А. Пальчэўскага)*.



Пераносіць словы з аднаго радка на другі можна толькі па складах: *сшы-так, кні-га, пе-нал.*

**78.** Прачытайце прыказкі. Чаму так гавораць?

Словам працы не заменіш.
Праца славіць чалавека.

Спішыце, падзяляючы словы на склады.

Якія словы можна па-рознаму падзяліць для пераносу?



Літары ***й, ў, ь***, апостраф (’) пры пераносе не аддзяляюцца ад папярэдняй літары: *чай-ка, лаў-ка, буль-ба, бар’-ер.*

**79.** Прачытайце. Як трэба падзяліць словы для пераносу?

Крэйда, майка, ваўкі, жоўты, канькі, аб’ём, пад’езд.

**80.** Са слоў складзіце сказ і запішыце.

Ветрык, на, калыша, **дрэўцах**, лісцікі.

Выдзеленае слова падзяліце для пераносу.





**81.** Разгледзьце малюнак. Прыдумайце размову вавёркі і вожыка. Выкарыстайце ветлівыя словы.



**82.** Падзяліце словы для пераносу і запішыце.

Садоўнік, малацьба, воўна, камп'ютар, ільняны, майстар, ластаўка.



Якія словы нельга пераносіць?

**83.** Падзяліце словы на склады. Запішыце. Падкрэсліце склад з адной літары.

Урок, званок, **вучні**, аловак, лінейка.

З выдзеленым словам складзіце сказ.



Словы з аднаго склада не пераносяцца: *клас*, *ён*, *ліст*.

Склад з адной літары нельга пакідаць на радку ці пераносіць на наступны радок: ***І****ван*, ***Ю****лі****я***.

Пераносіць словы трэба так: ***а****ло-вак*, *Ма-ры****я***.

**84.** Прачытайце. Падзяліце словы на склады.

Настаўніца, клас, шум, урок, чвэрць, шафа, стол, парта, перапынак, сшытак, канікулы.

Выпішыце тыя словы, якія нельга пераносіць.

**85.** Прачытайце словы, падзяляючы на склады.

Авёс, асіна, акацыя, каліна, алешнік, Алена, ягада, завея, алень, ясень.

Выпішыце назвы дрэў і кустоў. Вусна падзяліце словы для пераносу. Якое слова не дзеліцца для пераносу, хоць і ма́е два склады? Чаму?



**86.** Разгледзьце малюнак. Вусна адкажыце на пытанні.



1. Дзе працуе сям’я?
2. Што збірае бабуля?
3. Хто ёй дапамагае?
4. Што робяць тата і сын?
5. Чым занята мама?

**87.** Прачытайце. Палічыце колькасць складоў у кожным слове.

*я́блык*

У садзе паспелі яблыкі.

Запішыце сказ па памяці.



**88.** Выпішыце словы, якія нельга падзяліць для пераносу.

Лось, заяц, воўк, бабёр, лінь, алень, ластаўка, гусь, ліса, верабей.



Як падзяліць для пераносу словы са спалучэннямі літар ***дз, дж***?

**89.** Прачытайце словы, падзяляючы на склады. Як можна падзяліць гэтыя словы для пераносу?

Ураджай, брыгадзір, сядзіба, агароджа, тыдзень, студзень, гараджанін.



Спалучэнні літар ***дз, дж*** не раздзяляюцца пры пераносе слоў, калі яны абазначаюць адзін гук: *ня-**дзе**-ля, даж-**джы***.

**90.** Прачытайце. Назавіце словы са спалучэннямі літар ***дз, дж***. Якое слова можна падзяліць для пераносу?

Усё слабей грэе сонца. Дзьме халаднаваты вецер. Часта ідзе дождж. Птушкі адля-

таюць у цёплыя краіны. Ужо да вясны не пачуеш звонкай песні жаваранка, спеваў салаўя. Высока ў неба ўзняліся гусі. Яны ляцяць на поўдзень.

*надво́р’е*

Спішыце першыя тры сказы.
Раскажыце, якое сёння надвор’е.

**91.** Прачытайце. Выпішыце словы са спалучэннямі літар ***дз*** і ***дж***, падзяляючы іх на склады.

У школьным садзе вучні пасадзілі яблыні і грушы. Саджанцы добра прыняліся. Праз некалькі гадоў дрэўцы дадуць першы ўраджай.



**92.** Прачытайце словы.

Рэдзька, ураджай, студзіць, дажджы, халадзільнік, дрожджы, сузор’е.

Знайдзіце тыя словы, якія можна падзяліць па-рознаму — на склады і для пераносу. Спачатку запішыце гэтыя словы, падзяляючы на склады, затым — падзяляючы іх для пераносу.

## Націск у слове



Што такое націск?
Як вызначыць націск у слове?

**93.** Прачытайце. Які склад у кожным слове вымаўляецца з большай сілай голасу?

Вецер, сонца, пшаніца, хмара, рэчка, поле, возера, каласы.



***Націск*** — гэта выдзяленне голасам аднаго са складоў у слове.

Склад слова, які вымаўляецца з большай сілай і працягласцю, называецца ***націскным***.

**94.** Прачытайце словы. Запомніце, як правільна іх вымаўляць.

Імя́, мале́нькі, стары́, буйны́, магазі́н, крапіва́.

Спішыце словы. Вусна складзіце з імі сказы.

Знак націску ставіцца над літарай, якая абазначае галосны гук у націскным складзе: *бя-**ро́**-за, ра-**ка́***.

Знак націску не ставіцца над словам з аднаго склада і над літарай ***ё***.

**95.** Прачытайце. У кожным слове назавіце націскны склад.

Сарока, ластаўка, верабей, бусел, варона, салавей, шпак, сініца, зязюля, аўсянка.

Запішыце словы ў алфавітным парадку. Пастаўце ў іх націск.

*чацве́р*

**96.** Адгадайце загадку.

Сем братоў часам роўныя, а імёны розныя.

Студзень

| пн | аўт | ср | чц | пт | сб | ндз |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| 28 | 29 | 30 | 31 | | | |

Выпішыце са слоўніка (с. 128) назвы дзён тыдня. Абазначце націск у словах.

Запішыце ўсе магчымыя выпадкі пераносу слова *панядзелак*.

**97.** Прачытайце, якімі словамі можна пералічыць пяць дзён тыдня без іх назваў.

Пазаўчора, учора, сёння, заўтра, пасля-заўтра.

Спішыце. Пастаўце націск у словах.



**98.** Спішыце словы. Пастаўце ў іх націск.

Камар, матыль, павук, зоркі, **воблака**, **неба**, дожджык.

З выдзеленымі словамі складзіце сказы.



Ці залежыць сэнс слова ад націску?

**99.** Прачытайце. Параўнайце выдзеленыя словы. Ці ёсць якая-небудзь розніца ў іх напісанні? Ці адрозніваюцца гэтыя словы на слых?

**Рыба́к** налавіў **ры́бак.**
На дзвярах **за́мка** няма **замка́.**

Мы адпачывалі на беразе **ракі́.**
У чыстай рачной вадзе водзяцца **ра́кі.**

**100.** Прачытайце. Што абазначаюць словы, аднолькавыя па напісанні?



па́ра



пара́ ў школу



ка́пае



капа́е

Складзіце сказы па малюнках.

**101.** Прачытайце. Вывучыце верш на памяць.

**Зямля**

Гляджу з захапленнем
на нашу зямлю.
У травах і красках
зямліцу люблю.

*В. Жуковіч.*

Запішыце верш па памяці. Пастаўце націск у словах. Як падзяліць для пераносу слова *гляджу*?

**102.** З апорай на малюнкі складзіце сказы са словамі *ка́са* і *каса́*.





**103.** Спішыце. Растлумачце, што абазначае кожнае з выдзеленых слоў.

**Месяц** выглянуў з-за хмар і зноў схаваўся.
Кастрычнік — **месяц** асенні, а красавік — вясновы.

*ме́сяц*



**104.** Прачытайце. Знайдзіце словы, якія аднолькава пішуцца. Запішыце іх парамі, пастаўце націск.

Мыйце рукі перад ядой!
Пры сустрэчы Віця не падаў мне рукі.
Хлопчык ужо добра стаяў на каньках, не падаў.

## Правапіс слоў з літарамі *о, э—а*



**У якіх складах слоў пішуцца літары *о, э*?**

**Калі замест літар *о, э* патрэбна пісаць *а*?**

**105.** Прачытайце словы. Вызначце націскныя склады. Якія галосныя пішуцца пад націскам?

Жолуд, грэбень, грэчка, звон, подпіс, мост, вокны, холад, возера, чарэшня.

Спішыце. Падкрэсліце націскныя склады.



Літары ***о, э*** ў словах пішуцца толькі ў націскных складах: *наро́д, мо́ва, кватэ́ра, спрэ́чка*.

**106.** Прачытайце. Назавіце націскныя склады ў выдзеленых словах.

Праз лугі-**разлогі**,
паміж **рэчак звонкіх**
праляглі **дарогі**
роднае **старонкі**.

*П. Броўка.*

**107.** Прачытайце. Вызначце месца націску ў словах кожнай пары.

| | |
|---|---|
| г**о**рад — г**а**рады | др**э**ва — др**а**ўляны |
| д**о**ждж — д**а**жджы | ц**э**гла — ц**а**гляны |
| ст**о**л — ст**а**лы | р**э**чка — р**а**чны |

Якія літары пішуцца пад націскам? Якая літара замяняе іх у ненаціскных складах?



Не пад націскам на месцы літар ***о, э*** ў словах пішацца ***а***: *гóры — гарá, сóсны — сасна́, рэ́кі — ракá, стрэ́хі — страхá.*

**108.** Змяніце словы, каб націскны склад стаў ненаціскным. Які галосны гук з'явіўся на месцы ***о, э***?

*Рóсы — расá*, жолуд — ..., сноп — ..., дом — ... .

*Шчэ́бет — шчабятáць*, шэпт — ..., гоман — ..., звон — ... .

*Пóшта — паштóвы*, мора — ..., космас — ..., сэрца — ... .



**109.** Спішыце сказы, устаўляючы прапушчаныя літары.




Еду на к..ні.



Пасуцца к..ні.



У к..зы казляня.



К..зы скубуць лісце.

**110.** Прачытайце сказы. Змяніце словы, што ў дужках, як патрабуе сэнс.

1. Цёплыя *(дождж)* шчодра паліваюць зямлю. 2. У лесе гучаць птушыныя *(голас)*. 3. Беларусь — край блакітных *(рака)* і азёр.

Спішыце сказы. Пастаўце націск у словах, якія змянілі.



**111.** Прачытайце тэкст.

## У лесе



Дзеці пайшлі ў лес на экскурсію.

Стаміліся ў дарозе. На палянцы прыселі адпачыць на мяккі мох. Нечакана на палянку выбег вожык. Дзеці з цікавасцю назіралі за ім *(Паводле В. Ткачова)*.

*мя́ккі*

Вусна адкажыце на пытанні.

1. Для чаго служаць іголкі ў вожыка?
2. Якую карысць прыносіць вожык?

**112.** Прачытайце.

Узняўся **моцны** вецер.
**Хлопчык** падвязаў дрэўца.
Каля Сашавага дома расла **маленькая** яблынька.
Ён ледзь не зламаў яблыньку.
Расці, яблынька!

Запішыце сказы ў такім парадку, каб атрымалася апавяданне. Пастаўце націск і падкрэсліце націскны склад у выдзеленых словах.



**113.** Спішыце. Устаўце патрэбныя літары. Абазначце націск.

### Палічыце таполі




Р..слі ў п..лі
тры т..полі.
А за р..чкай —
на сем болей.

І за р..чкаю,
і ў п..лі
палічыце ўсе т..полі.

*А. Малюк.*

## Правапіс слоў з літарамі *е, ё—я*



Як вызначаецца першы склад перад націскам?

**114.** Прачытайце словы. Назавіце націскныя галосныя гукі. Якімі літарамі яны абазначаны на пісьме?

Вечар, неба, дзянёк, вецер, бераг, зелень, звер, цвёрды, зялёны, цёплы, вясёлы, хваёвы.

Спішыце. Пастаўце націск у словах. У якіх словах вы не абазначылі націск? Чаму?



У беларускай мове літара ***ё*** пішацца толькі пад націскам: ***вёска, мёд, палёт***.

**115.** Прачытайце. Якая літара прапушчана ў кожным слове? Вызначце націскны склад у словах.

**Аб'..м, вяс..лка, вав..рка, пас..лак, в..ска, ц..мны, л..гкі.**

**116.** Разгледзьце табліцу. Як лічацца склады перад націскам?

| Трэці склад перад націскам | Другі склад перад націскам | Першы склад перад націскам | Націскны склад | Склад пасля націску |
|---|---|---|---|---|
| | | ляс- | -ны́ | |
| | лес- | -ні- | -кі́ | |
| ле- | -са- | -ві- | -чо́к | |
| | | За- | -ле́- | -ссе |

**117.** Прачытайце словы. Падзяліце іх на склады. Вызначце націскны склад.

Зямля, вясна, мяцеліца, прыбярэжжа, свяціць, спяваць.

Спішыце. У кожным слове падкрэсліце першы склад перад націскам.



**118.** Спішыце. У кожным слове падкрэсліце першы склад перад націскам.

Вясёлка, нядзеля, сяло, ляснік, дзядуля, зязюля, цацярук, буякі́.



Калі ў словах на месцы літар ***е***, ***ё*** пішацца ***я***?

**119.** Прачытайце словы парамі. Вызначце націскны склад у кожным слове. Якая літара пішацца замест **е, ё** ў першым складзе перад націскам?

вербы — вярба
дзень — дзянёк
звер — звярок

лёд — лядок
вёдры — вядро
мёд — мядовы

сне́жны сняжо́к



У першым складзе перад націскам на месцы літар **е, ё** пішацца **я**: *ве́села* — ***вя****сёлы*. Ва ўсіх іншых ненаціскных складах пішацца **е**: *л****е****дзяны́, з****е****л****е****нава́ты, ле́б****е****дзь, ве́рас****е****нь*.

**120.** Прачытайце тэкст. Растлумачце правапіс выдзеленых літар.

## У вырай

Восенню дзікія гусі і качкі чародамі л**я**цяць на поўдз**е**нь. Чарадой л**я**цець лягчэй і ад ворагаў лепш абараняцца.

Чараду гусей лёгка адрозніць ад чарады качак. У гусей чарада, як клін. А качкі л**я**цяць шырокай дугой.



Усю зіму птушкі будуць жыць у ц**ё**плых краях. А в**я**сной зноў вернуцца на радзіму.

На што падобная чарада гусей у палёце? Як называюць птушак, якія не пакідаюць родны край на зіму?

**121.** Прачытайце. Якія літары прапушчаны? Растлумачце іх правапіс.

цень — ц..нёчак        лес — л..сок
мёд — м..док        лён — л..нок

Запішыце словы. Пастаўце націск. Падкрэсліце ўстаўленыя літары.

**122.** Прачытайце. Ці ведаеце вы, чаму месяц *май* раней называўся *травень*? Як узніклі назвы месяцаў *верасень, кастрычнік, лістапад*?

З сонцам, з ц..плымі в..трамі
на лугі ў р..се-красе
зазірнуў в..сёлы травень,
разбудзіў зв..ночкі ўсе.

*М. Чарняўскі.*

Спішыце. Устаўце прапушчаныя літары.



**123.** Спішыце сказы, замест кропак устаўце літару ***е*** або ***я***.

Л..с — багацце нашай Радзімы.
У л..сной глушы гн..здуецца чорны бус..л.

**124.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары ***е, ё*** або ***я***. Растлумачце іх правапіс.

Гн..зды — гн..здо, сц..ны — сц..на, в..ска — в..сковы, в..сна — в..сновы, з..лень — з..лёны, сп..вы — сп..ваць, св..тлы — св..тлець.

*геро́й*

**125.** Праверце, ці ва ўсіх словах правільна выдзелены першы склад перад націскам.

**Мядз**ведзь, пе**ра**пынак, **ме**даль, **я**ліна, **ге**рой, **бя**роза.

*меда́ль*

Запішыце словы, у якіх у першым складзе перад націскам пішацца літара **е**.

Запомніце іх напісанне.

Складзіце сказы з гэтымі словамі.

**126.** Знайдзіце лішняе слова ў кожным радку. Чаму яно лішняе?

В**я**сёлы, в**е**расо́вы, з**я**лёны, кл**я**но́вы.
**Ге**рой, ле**бедзь**, **ся**бры, **дзя**нёк.

**127.** Прачытайце тэкст. Якія літары прапушчаны ў словах?

### Фарбы в..зера

Узых..дзіць сонца. Быццам з..латым д..жджом сыпанула па з..млі. Усё навокал павес..лела і засв..цілася рознымі фарбамі. В..зера ўспыхнула сін..вой. Л..гкі в..трык варушыць **азёрную** гладзь *(Паводле В. Хомчанкі)*.

Спішыце трэці сказ, устаўляючы прапушчаныя літары.

Выдзеленае слова падзяліце на склады і для пераносу.



**128.** Прачытайце і адгадайце загадку.

Я з..лёная і колкая.
Я с..стра прыгожай ёлкі.
Для мяне заўжды в..сна.
А завуць мяне … .



Спішыце загадку, устаўляючы прапушчаныя літары. Дапішыце адгадку.



**129.** Разгледзьце малюнак.




Адкажыце на пытанні.

1. Хто запрасіў у госці сваіх сяброў?
2. Што гаспадыня Восень дала зайчыку?
3. Для каго паставіла яна ліпавы мёд?
4. Чаго насыпала Восень вавёрачцы?

Па малюнку і пытаннях складзіце апавяданне пра тое, як звяры прыйшлі ў госці да Восені.

## Праверце сябе

**1.** Прачытайце загадку і адгадайце яе. Назавіце галосныя гукі ў выдзеленых словах.

**Апусцелі** палі.
Хлеб у свірны* зве́злі.

Лугі пакасілі.
Стагі **завяршылі**.
Лістота лятае.
Дождж не сціхае...
Калі гэта бывае?

*І. Муравейка.*

**Свíран* — халодны будынак для захоўвання збожжа.

Напішыце літары, якімі абазначаецца мяккасць зычных на пісьме.

**2.** Прачытайце словы. Вызначце першы склад перад націскам.

Зямля, мядовы, зялёны, звяры, янот, яліна, верабей, бялюткі, бярозка.

**3.** Спішыце сказы. Пры спісванні ўстаўляйце прапушчаныя літары.

У с..сновым бары стукаюць дз..тлы.
Зубр — дужы зв..р.
У Белавежскай пушчы водзяцца розныя зв..ры́.

## Зычныя гукі



Якая розніца паміж галоснымі і зычнымі гукамі?

**130.** Вымавіце гукі, абазначаныя літарамі.

а, о, у, э, ы, і

б, в, г, д, ж, р, ч

Пры вымаўленні якіх гукаў паветра сустракае ў роце перашкоду? Як называюцца такія гукі?



Зычны гук пры вымаўленні сустракае перашкоду: губы, зубы, язык.

Зычны гук вымаўляецца з удзелам шуму і голасу або толькі з удзелам шуму.

У беларускай мове зычныя гукі абазначаюцца літарамі: ***б, в, г, д, ж, з, й, к, л, м, н, п, р, с, т, ў, ф, х, ц, ч, ш.***

**131.** Прачытайце, выразна вымаўляючы кожнае слова. Якімі гукамі адрозніваюцца словы ў парах?

Зорка — горка, каса — каза, хата — вата, гук — сук, дуб — зуб, лес — леў, салома — сарока.

**132.** Прачытайце словы. Назавіце зычныя гукі ў словах.

Дарога, гадзюка, вецер, дзяцел, пчала, поле, ячмень, джала, дзень, сонца.

Спішыце словы, у якіх адзін зычны гук абазначаны дзвюма літарамі.



Зычны гук склада не ўтварае. Ён бывае ў складзе толькі разам з галосным: *му-зы-ка, спя-ва-юць.*

**133.** Прачытайце. Вывучыце верш на памяць.

**Вечаровая песня**

Ахінае* сцежкі ночка.
Дрэмлюць дрэвы і кусты.
Спі, сыночак, мой
званочак,
сілы набірайся ты.

*В. Жуковіч.*



*пе́сня*

**Ахіна́е* — ахутвае, агортвае.

Запішыце першыя два радкі верша па памяці.



**134.** У кожным слове замяніце першы зычны гук так, каб атрымалася новае слова. Запішыце словы парамі.

| | |
|---|---|
| *вожык — ножык* | пень — ... |
| шышка — ... | корка — ... |
| жук — ... | рак — ... |
| лаза — ... | дуб — ... |

## Напісанне слоў з літарамі *у—ў*



Якая розніца паміж гукамі [у] і [ў]? Калі пішацца літара ***ў***?

**135.** Прачытайце словы. Падзяліце іх на склады. Чаму ***ў*** не ўтварае склада? Калі пішацца літара ***ў***?

Вучань, урок, пішу, вучу, падручнік.
Воўк, шоўк, аўторак, заўтра, будаўнік.

Спішыце словы з літарай ***ў***.



Гук [ў] зычны. На пісьме абазначаецца літарай ***ў*** *(**у** нескладовае)*.

Літара ***ў*** пішацца пасля галосных: *ла**ў**ка, багаты **ў**раджай, іду **ў** школу.*

**136.** Прачытайце словы, падзяляючы іх на склады.

Наста..нік, в..ха, дзя..чынка, пе..нік, л..гі, шча..е, ка..нер, з..бы, вяро..ка, сяб-ро..ка.

Спішыце. Устаўце прапушчаную літару ***у*** або ***ў***.

**137.** Прачытайце. Спішыце верш, устаўляючы літару ***у*** або ***ў***.



**Хлеб**

Ён д..хмяны,
свежы, смачны.
Кожны дзень яго дамо..
мы нясём з ..ніверсама.
Хлеб — аснова ..сіх асно.. .

*М. Пазнякоў.*

**138.** Прачытайце. Якія літары прапушчаны?

Ап..сцелі нівы. Змо..клі пт..шкі. Да..-но не ч..ваць сала..я. З дрэ.. ападае жо..-тае лісце.

Спішыце. Устаўце патрэбныя літары.

**139.** Змяніце словы так, каб у сярэдзіне іх была літара ***ў***.

*Морква* — *моркаўка*, трава, канава, ніва, сліва, лава, дрэва.

**140.** Змяніце словы, каб на канцы быў гук [ў].

*Працавала* — *працаваў*, жыла, была, слухала, глядзела, чытала, вучыла.

Запішыце словы парамі. Падкрэсліце літару ***ў***.

**141.** Прачытайце і адгадайце загадку.

Паўзун паўзе, іголкі вязе.

Запішыце загадку па памяці. Падкрэсліце словы з літарай ***ў***.



**142.** Спішыце, устаўце літару ***у*** або ***ў***.

Ветрык з по..дня дыхну..,
каласкі скалыхну.. .
Ён па тра..цы праплы..
і ў гаёчк.. засты.. .

*Я. Колас.*



## Як падзяліць словы з літарай *ў* для пераносу?

**143.** Спішыце сказы. Падкрэсліце літару ***ў***.

Ліса жыве ў нары.
Пчолы жывуць у вуллі.

Калі пішацца літара ***ў***?

**144.** Прачытайце назвы птушак. Выпішыце тыя словы з літарай ***ў***, у якіх два склады. Падзяліце іх для пераносу. (Карыстайцеся правілам на с. 38.)

Аўсянка, бусел, глушэц, жаўна́, жаўрук, кнігаўка, кулік, ластаўка, малінаўка, салавей.

*Рэспу́бліка Белару́сь*

**145.** Спішыце сказы. Падкрэсліце літару ***ў***.

Прыгожая і ўтульная наша краіна — Рэспубліка Беларусь. У кожным яе куточку ёсць адметныя* мясціны.

**Адме́тныя* — непаўторныя, не падобныя на іншыя.



**146.** Разгледзьце малюнак. Прачытайце тэкст.



Свой вольны час дзеці часта бавілі* на лавачцы. Падышоў не́як дзядуля і сказаў:

— Давайце, дзеткі, пасадзім дрэўцы.

— Давайце!.. — у адзін голас адказалі дзеці.

І пачалася праца...

**Ба́віць* — праводзіць.

Раскажыце, як працавалі дзеці.

**147.** Спішыце тэкст. Устаўце літару ***у*** або ***ў***.

### Клён

На лясной дарозе я ..бачы.. вырваны клёнік. Ён бы.. яшчэ жывы. Шкада мне стала дрэ..ца. Я прынёс яго дадом.. . Пасадзі.. пад **а**кном.

Клёнік ..жо вырас. З**я**лёным лісцем в**о**кны засланяе ... спёк.. *(Паводле М. Янчанкі)*.

Растлумачце напісанне выдзеленых літар.

**148.** Прачытайце прыказку. Чаму так гавораць?

Дрэўца пасадзіў — дабро зрабіў.

Спішыце. Падкрэсліце літару ***ў***.



**149.** Спішыце. Пры спісванні ўстаўляйце літару ***у*** або ***ў***.

Спяшацца на ..рок, збіраць ..раджай, едуць ... горад, пайшлі ... кіно, прыбіраюць ... пакоі, прыемна ..сміхаецца, стаіць на ..згорку, прыйшо.. ... госці.

# Парныя цвёрдыя і мяккія зычныя гукі



Як абазначаецца на пісьме мяккасць зычных гукаў?

**150.** Прачытайце. Параўнайце вымаўленне першых гукаў у словах кожнай пары.

Воз — вёз, сын — сінь, лісяня — ласяня.

**151.** Разгледзьце малюнак. Раскажыце пра цвёрдыя і мяккія зычныя гукі і пра тое, як яны абазначаюцца на пісьме.

а о у ы э

| | | |
|---|---|---|
| [б] | — б — | [б’] |
| [в] | — в — | [в’] |
| [г] | — г — | [г’] |
| [з] | — з — | [з’] |
| [к] | — к — | [к’] |
| [л] | — л — | [л’] |
| [м] | — м — | [м’] |
| [н] | — н — | [н’] |
| [п] | — п — | [п’] |
| [с] | — с — | [с’] |
| [ф] | — ф — | [ф’] |
| [х] | — х — | [х’] |

е ё ю я і ь



**Зычныя гукі падзяляюцца на цвёрдыя і мяккія.**

**Мяккасць зычных гукаў на пісьме абазначаецца літарамі *е, ё, ю, я, і, ь* (мяккім знакам): *вецер, вёска, людзі, вясёлы, зіма, дзень*.**

**152.** Прачытайце словы. Назавіце мяккія зычныя гукі.

Восень, бяроза, дзянёк, нябесны, раніца, любіць.

Спішыце. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць мяккасць зычных гукаў.

**153.** Прачытайце. Назавіце словы, якія адрозніваюцца адным зычным гукам.

Наляпіў Мікола з воску дзіўных цацак на ўсю вёску *(Н. Сторажава)*.
Пайшоў Сёма лавіць сома *(М. Мінчанка)*.
У малога Санькі новенькія санкі *(Н. Сторажава)*.

**154.** Прачытайце верш.

## Ліска і Лыска

Каля лесу бегла ліска,
а насустрач лісцы Лыска.
Папрасіла ліска Лыску:
— Палюляй, сусед, калыску.
Але Лыска ані блізка:
— Не люляў я лысянятак,
што ж люляць мне лісянятак?

*Г. Барадулін.*

Выпішыце словы, блізкія па гучанні. Падкрэсліце літары, якімі абазначана мяккасць зычных гукаў на пісьме.



**155.** Прачытайце і навучыцеся хутка вымаўляць скорагаворку.

Над возерам вецер лятае,
на хвалях лілеі люляе.

*М. Пазнякоў.*

Спішыце, падкрэсліце літары, якія абазначаюць на пісьме мяккасць папярэдніх зычных гукаў.

# Мяккі знак — паказчык мяккасці зычнага гука



Як абазначыць на пісьме мяккасць зычных гукаў на канцы слова і ў сярэдзіне слова перад зычнымі?

**156.** Прачытайце. Як вымаўляецца апошні зычны гук у словах: цвёрда ці мякка?

Мароз, ветразь, агонь, сон, конь, Нёман, столь, стол, соль, лось, лес.

Выпішыце словы, у якіх апошні зычны гук мяккі. Падкрэсліце ***ь*** разам з папярэдняй літарай.



Літара ***ь*** (мяккі знак) служыць для абазначэння мяккасці зычных гукаў на пісьме: *сол**ь**, гаварыц**ь**, вос**ь**мы, кан**ь**кі.*

**157.** Прачытайце пары слоў.

Стол — столь, рыс — рысь, вугал — вугаль, мел — мель.

Спішыце. Падкрэсліце літару, якая паказвае, што апошні зычны гук у слове — мяккі.

**158.** Прачытайце. Як вы разумееце выраз *вокам не абняць*?

Куды ні глянь — лясы шумяць,
цвіце за полем гай.
А поле — вокам не абняць.
І гэта ўсё — мой край.

*А. Русак.*

Спішыце другі сказ. Падкрэсліце ў словах літары мяккіх зычных гукаў.

Як абазначаецца мяккасць гукаў на пісьме?

**159.** Прачытайце словы.




Ячме.., пена.., дзе.., карабе.., чме.., це.., але.., сло.. .

Спішыце словы. Устаўце прапушчаныя літары. Падкрэсліце мяккі знак разам з папярэдняй літарай.



**160.** Прачытайце верш.

З мяккім знакам — і агонь,
і далонь, і пень, і лінь.

Стане конам добры конь,
толькі мяккі знак адкінь.
*А. Вольскі.*

Спішыце. Падкрэсліце ў словах ***ь*** разам з папярэдняй літарай.

**161.** Прачытайце словы. Назавіце мяккія зычныя гукі.

Пальма, шэранькі, лялька, маленькі, бабулька, дзянькі, пісьмо, просьба.

Спішыце словы. Падкрэсліце ***ь*** разам з папярэдняй літарай.

**162.** Падбярыце да слоў з правага слупка словы з левага, якія падыходзяць па сэнсе.

| | |
|---|---|
| летняя | аген..чык |
| дзіцячы | навал..ніца |
| новы | піс..меннік |
| слабы | ал..бом |

Запішыце спалучэнні слоў, устаўляючы патрэбную літару. Падкрэсліце ***ь*** разам з папярэдняй літарай.

**163.** Прачытайце словы, якія абазначаюць рысы характару чалавека. Як абазначана мяккасць апошняга зычнага гука ў гэтых словах?

Акуратнасць, ветлівасць, удзячнасць, спагадлівасць, сардэчнасць, працавітасць.

Запішыце словы ў алфавітным парадку.



**164.** Прачытайце. Якія рысы характару ўласцівы хлопчыку?

### Ветлівасць



Старэнькі дзядулька зайшоў у аўтобус. Свабоднага месца ў аўтобусе не было. Міхаська ветліва прапанаваў дзядулю сваё месца. Дзядуля сеў і падзякаваў хлопчыку.

Адкажыце на пытанні. Адказы запішыце.

1. Хто зайшоў у аўтобус?
2. Ці было ў аўтобусе свабоднае месца?
3. Хто прапанаваў дзядулю сваё месца?



**165.** Прачытайце. Спішыце. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць мяккасць зычных гукаў.

**Калыханка**

Спі, сыночак міленькі,
галубочак сізенькі.
Мой сыночак будзе спаць,
а я буду калыхаць.

*З народнага.*

**166.** Прачытайце. Як абазначаецца на пісьме мяккасць зычных гукаў?

**Вольха**, яблынька, **васількі**, цюльпаны, **рэдзька**, ельнік.

Спішыце. Падкрэсліце ў словах літары, якія абазначаюць мяккасць зычных гукаў. У выдзеленых словах назавіце колькасць гукаў і літар.

**167.** Напішыце словы з ***ь*** у сярэдзіне.

*дзень — дзянькі*
акунь — ...
пень — ...

*агонь — агеньчык*
карань — ...
вузел — ...

**168.** Дапоўніце сказы, замяняючы малюнкі словамі.

Міхась напісаў сябру .

Бабуля падарыла ўнучцы .

Тата купіў сыну .

Як прыгожа цвітуць !

Запішыце сказы. Словы з ***ь*** падзяліце для пераносу. (Карыстайцеся правілам на с. 38.)



**169.** Прачытайце загадку і адгадайце яе.



**Мале́нькі шустранькі** звярок скача з елкі на дубок.

Запішыце загадку па памяці. Выдзеленыя словы падзяліце для пераносу.

## Няпарныя цвёрдыя (зацвярдзелыя) гукі



Чаму [ж], [ш], [ч], [дж], [р], [ц] называюць няпарнымі цвёрдымі (зацвярдзелымі) зычнымі гукамі?

Літары якіх галосных гукаў пішуцца пасля літар, што абазначаюць няпарныя цвёрдыя (зацвярдзелыя) гукі?

**170.** Назавіце прадметы. Цвёрда ці мякка вымаўляюцца ў словах першыя гукі?








**Шч**упак. **Ч**арапаха. **Р**ужа. **Ш**ына. **Ж**аба. **Ц**ыбуля. **Дж**ынсы.



Зычныя [ж], [ш], [ч], [дж], [р], [ц] — няпарныя цвёрдыя (зацвярдзелыя) гукі. Яны не маюць адпаведных мяккіх гукаў.

**171.** Прачытайце словы. Назавіце няпарныя цвёрдыя зычныя гукі. Якія літары ўказваюць на тое, што гэтыя гукі цвёрдыя?

Жывёла, шаша, жолуд, рэчка, чэрвень, дрэва, ураджай, цукерка.

Спішыце словы. Падкрэсліце літары, якімі абазначаны няпарныя цвёрдыя зычныя гукі.



**Пасля літар, якія абазначаюць няпарныя цвёрдыя зычныя гукі, пішуцца *а, о, у, ы, э*: *жарт, чорны, ружа, шыць, цэгла*.**

**172.** Прачытайце. Якія літары галосных гукаў прапушчаны?

Сш..так, Ж..ня, хлопч..к, ур..к, р..чка, р..нец, дождж..к, ж..ўты.

Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Падкрэсліце літары, якімі абазначаны няпарныя цвёрдыя зычныя гукі.

**173.** Прачытайце словы. У кожным радку знайдзіце лішняе слова.

Шафа, стол, крэсла, паліца.
Падручнік, цыркуль, сшытак, аловак.
Цукар, аса, пчала, джала.
Перац, пятрушка, бульба, агурок.

Спішыце словы, у якіх ёсць няпарныя цвёрдыя гукі. Падкрэсліце літары, якія іх абазначаюць.

**174.** Прачытайце прыказкі. Як вы іх разумееце?

1. Хто прац..е, той і мае. 2. Будзеш прац..ваць — будуць людзі паважаць.

Спішыце. Устаўце прапушчаныя літары.



**175.** Прачытайце тэкст.

Усю ноч ішоў дождж. Раніцай выглянула сонца. Яго промні пераліваліся ў кроплях вады на дрэвах і траве.

Спішыце. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць няпарныя цвёрдыя зычныя гукі.

**176.** Прачытайце словы. Як вымаўляюцца гукі [ц] і [ц’]?

Цела, цэлы, цукар, цюбік, сцэна, сцяна.



У беларускай мове ёсць два розныя гукі: [ц] і [ц’].

Адзін — заўсёды цвёрды, другі — толькі мяккі.

На пісьме яны абазначаюцца адной літарай ***ц***. Адрозніць гэтыя гукі дапамагаюць літары галосных гукаў і мяккі знак: *мяце**л**іца, абяца**ць***.

**177.** Прачытайце. Назавіце словы, у якіх ёсць літара ***ц***. Які гук яна абазначае ў слове?

— Хто зірнуў так рана ў аконца?
— Сонца.
— Хто гуляе ўсюды на свеце?
— Вецер.
— Хто нас поіць празрыстай вадзіцай?
— Крыніца.

*С. Пацёмкін.*

**178.** Прачытайце. Які гук — цвёрды [ц] ці мяккі [ц’] — вы чуеце ў словах? Якія літары трэба ўставіць? Чаму?

Ц..гнік, ц..нь, ц..ган, вец..р, лісц.., ц..буля, коц..к, канц..рт, мац.., бац..ка, сц..жынка, ц..мра.

Спішыце. Устаўце прапушчаныя літары.

**179.** Прачытайце верш. Чаму самым моцным лічыцца сумленнае, чэснае слова?

Самае чыстае —
гэта крыніца.
Самае строгае —
гэта граніца.
Самае смачнае —
хлеб наш жытнёвы.
Самае моцнае —
чэснае слова.

*М. Гелер.*

Выпішыце словы з няпарнымі цвёрдымі гукамі. Падкрэсліце літары няпарных цвёрдых гукаў.



**180.** Прачытайце. Спішыце першыя тры сказы. Устаўце прапушчаныя літары.

Снягір большы за вер..б'я. На галаве ў снегіра ч..рны капялюш..к. Спінка ў яго ш..рая, а грудка ч..рвоная. Гэта птушка харчуецца насеннем дрэў.



Кароткім зімовым днём снегіры гадзінамі сядзяць на рабіне.

Вясной снегіры робяць гнёзды ў лясным гушчары *(Паводле А. Вольскага)*.

Раскажыце пра тое, як вы дапамагаеце птушкам зімой.



**181.** Спішыце. Падкрэсліце літару, якая абазначае цвёрды гук [ц], адной рыскай, а літару, якая абазначае мяккі гук [ц'], — дзвюма.

Маладой бярозцы
павязала восень
жоўтую хусцінку
з белай павуцінкай.
*Я. Пушча.*

# Гукі [д] і [дз’]. Іх абазначэнне на пісьме



Як абазначаецца на пісьме гук [дз’]?

**182.** Прачытайце. Звярніце ўвагу, як вымаўляюцца ў словах гукі [д], [дз’].

Сады — у садзе, лядок — на лёдзе, хада — хадзіць, язда — ездзіць, брыгада — у брыгадзе, малады — маладзейшы.



У беларускай мове гук [д] цвёрды, а гук [дз’] — мяккі. На пісьме цвёрды зычны гук [д] абазначаецца літарай ***д***, а мяккі [дз’] — дзвюма літарамі ***дз***: ***дні — дзень, два — дзве***.

**183.** Прачытайце словы. Якія літары пішуцца пасля спалучэння літар ***дз***?

Дзяжурны, дзеці, дзядзька, мядзведзь, дзядуля, дзюба, дзік.

Спішыце. Падкрэсліце спалучэнне літар ***дз*** разам з наступнай літарай.



Пасля ***дз*** пішуцца літары ***е, ё, ю, я, і, ь***: *аdзенне, дзённік, дзюбка, дзяцел, дзіва, рэдзька*. На канцы слова пасля ***дз*** пішацца ***ь***: *медзь, гладзь, ледзь*.

Спалучэнне літар ***дз*** пішацца перад літарай ***в***, якая абазначае мяккі гук [в’]: *подзвіг, дзверы*.

**184.** Спішыце тэкст. Устаўце літару ***д*** або спалучэнне літар ***дз***.

**Радзіма**

Ра..іма — гэта зямля, на якой ты нара..іўся. Ра..іма — гэта твае ..я..ы і бацькі. Гэта народ, з якім ты жывеш. Гэта твой ро..ны ..ом.

Падкрэсліце літары, якія пішуцца пасля ***дз***.

**185.** Прачытайце словы. Змяніце іх па ўзоры. Які гук абазначаецца спалучэннем літар ***дз***?

*вада — у вадзе*     *завод — на заводзе*
гняздо — …     агарод — …
прырода — …     града — …

холад — ...  парад — ...
карагод — ...  поезд — ...

Запішыце словы парамі. Падкрэсліце склады са спалучэннем літар ***дз***.



**186.** Спішыце прыказкі. Устаўце літару ***д*** або спалучэнне літар ***дз***.

Як навучышся, так і ве..аць бу..еш.
Пара..а ніколі не шко..іць.

**187.** Прачытайце словы.

Дзік, удаў, кракадзіл, мядзведзь, дэльфін, бульдог.

Выпішыце спачатку словы з гукам [д], а затым — з гукам [дз’].

**188.** Прачытайце. Запішыце сказ пад дыктоўку.

Як у хустачках дзяўчынкі, чырванеюць дзве асінкі.

Падкрэсліце літары, якія пішуцца пасля ***дз***.

**189.** Запішыце назвы гарадоў нашай краіны ў алфавітным парадку. Падкрэсліце ў словах літары ***д, дз***.

Добруш, Дзяржынск, Маладзечна, Гродна, Драгічын, Жодзіна, Ліда, Навагрудак.

Якія гукі абазначаюцца літарамі ***д, дз***?

**190.** Прачытайце і адгадайце загадку.



У яловіку кашлатым
Запішчалі птушаняты.
Ды зімой, ды ў маразы!
Што за птушка — адкажы!
*У. Паўлаў.*

Слова-адгадку запішыце, падзяляючы на склады. Падкрэсліце спалучэнне літар ***дз*** разам з наступнай літарай.



**191.** Запішыце прыказку. Змяніце словы, што ў дужках, як патрабуе сэнс.

Сапраўдны сябар не пакіне ў *(бяда)*.

## Гукі [т] і [ц’]. Іх абазначэнне на пісьме



Літары якіх галосных гукаў пішуцца пасля ***ц***?

Ці пішуцца пасля ***т*** літары ***е, ё, ю, я, і***?

**192.** Прачытайце. Як вымаўляюцца ў словах гукі [т] і [ц’]?

ха**т**а — у ха**ц**е
бало**т**а — у бало**ц**е
кус**т**ы — кус**ц**ік
мос**т** — мос**ц**ік

Запішыце словы. Падкрэсліце літары ***т, ц***.



Цвёрды зычны гук [т] утварае пару з мяккім [ц’]. На пісьме гэтыя гукі абазначаюцца літарамі ***т*** і ***ц***: *пло**т** — на пло**ц**е*.

**193.** Прачытайце. Змяніце словы па ўзоры.

*жыта — у жыце*
палёт — …
шахта — …
*карта — на карце*
самалёт — …
парта — …



Мяккасць гука [ц’] на пісьме абазначаецца літарамі ***е, ё, ю, я, і, ь***: *ц**е**нь, ц**ё**мны, ц**ю**лень, ц**я**жкі, ц**і**шыня, ц**ь**мяны.*

**194.** Прачытайце словы. Памятайце, што перад мяккім [в’] гук [ц’] вымаўляецца мякка.

| [ц’] | [ц’] |
|---|---|
| дзі**ц**я | **ц**вік |
| **ц**ень | **ц**вёрды |
| **ц**ёплы | **ц**вілы́ |
| кіп**ц**юры | **ц**віценне |
| **ц**іха | Ма**ц**вей |

**195.** Прачытайце. Дапоўніце сказы словамі. Словы змяніце, як патрабуе сэнс.

Пісьмо ляжыць у … .
Пра настаўніцу напісалі ў … .
Журавіны растуць на … .

Запішыце сказы.

Словы для даведкі: *канверт, балота, газета.*



**196.** Прачытайце словы. Складзіце сказы, каб атрымалася апавяданне.

У, ёсць, Дзімы, дзядуля.
Дзядуля, шмат, ведае, казак.
Сёння, злога, пра, расказвае, ён, чарадзея.
Дзіма, уважліва, казку, слухае.



**197.** Прачытайце верш. Выпішыце словы, у якіх ёсць мяккі гук [ц’]. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць яго мяккасць.



Ляцяць і ляцяць
сняжынкі,
спадаюць на ціхі дол.
Чысцюткай-чысцюткай
беллю
заслалі палі вакол...
Хусцінкамі пухавымі
захуталі плечы хвой...
Мая дарагая Радзіма,
прыгожая ты і зімой!
*П. Броўка.*

**198.** Прачытайце сказы.

Дзьмуць халодныя **вятры**. Дзьме халодны **вецер**.

У нас надзейная **варта**. На **варце** стаяць пагранічнікі.

**Балота** ачышчае паветра. На **балоце** жывуць розныя птушкі.

Спішыце сказы. Падкрэсліце літары ***т, ц*** у выдзеленых словах.

**199.** Прачытайце тэкст. Якую пару года апісвае аўтар? Растлумачце правапіс выдзеленых літар.

Адл**я**талі **ў** **ц**ёплыя краіны птушкі. Пус**ц**елі палі і лугі. Дрэвы зм**я**нялі свой летні **ў**бор на асенні — зала**ц**істы, яркі, стракаты.

Спішыце тэкст. Падкрэсліце літару ***ц*** разам з наступнай літарай галоснага гука.

**200.** Прачытайце скорагаворку. Навучыцеся хутка вымаўляць яе.

У снежні сняжынкі занеслі сцяжынкі.

Запішыце скорагаворку па памяці.



**201.** Складзіце сказы і запішыце іх. Выдзеленыя словы пастаўце першымі.

**У**, закружыліся, першыя, паветры, сняжынкі.

Апускаліся, палянку, ціха, на, **яны**.

Зайчык, пяньку, сядзеў, **на**.

Лапай, **ён**, сняжынкі, лавіў.

Дзівак, **вось**!



**202.** Прачытайце загадкі і адгадайце іх.

Яно для ўсіх нас — добры друг,
хоць дзіваком здаецца,
што адзяе вясной кажух,
а ўвосень раздзяецца.

*Н. Гілевіч.*




Днём і ноччу я іду,
ранкам вас не падвяду.
Нават тых, хто моцна спіць,
здольны хутка разбудзіць.

*М. Пазнякоў.*

Спішыце адну загадку. Падкрэсліце літары, якія пішуцца пасля ***дз***.

# Звонкія і глухія зычныя гукі



Чаму адны зычныя гукі называюцца звонкімі, а другія — глухімі?

Як адрозніць звонкія і глухія зычныя гукі?

**203.** Прачытайце. Якімі гукамі адрозніваюцца словы кожнай пары? Якія з іх вымаўляюцца звонка, а якія — глуха?

Жар — шар, борт — порт, каза — каса, год — ход, дзень — цень, саджу — сачу.



Зычныя гукі падзяляюцца на звонкія і глухія.

***Звонкія*** зычныя гукі вымаўляюцца з голасам і шумам, ***глухія*** зычныя — з шумам.

**204.** Разгледзьце табліцу на другім форзацы падручніка і адкажыце на пытанні.

1. Якія гукі ўтвараюць пары па глухасці-звонкасці?

2. Якія гукі адносяцца да няпарных глухіх зычных гукаў?

3. Якія гукі адносяцца да няпарных звонкіх зычных гукаў?

**205.** Вымавіце гукі. Якія гукі ўтвараюць пары? Чаму ў левым і правым слупках розная колькасць пар?

[б] — [п]
[г] — [х]
[д] — [т]
[дж] — [ч]
[ж] — [ш]
[з] — [с]

[б’] — [п’]
[г’] — [х’]
[дз’] — [ц’]
[з’] — [с’]

**206.** Спішыце словы, устаўляючы прапушчаныя літары.

..ераг, ..ірог, ..орад, ..історыя, ..ом, ..іця, ..ыццё, ..оркі, ..ямля.

Якія гукі абазначаюць устаўленыя літары: звонкія ці глухія? Парныя ці няпарныя? (Карыстайцеся форзацам у канцы падручніка.)

**207.** Прачытайце.

**Кошка, гарбузы, галубы, лімон, зямля, птушка, каток, шафа, сшытак.**

Выпішыце ў адзін слупок словы, у якіх усе зычныя гукі звонкія, у другі — словы, у якіх усе зычныя глухія.

Вусна складзіце некалькі сказаў, выкарыстоўваючы гэтыя словы.



**208.** Прачытайце словы.

| | |
|---|---|
| ***хаджу — хачу*** | ***жар — шар*** |
| **былінка — ...** | **год — ...** |
| **зала — ...** | **дом — ...** |
| **дзень — ...** | **жыў — ...** |
| **Дзіма — ...** | **Джэк — ...** |

Вымавіце гукі, якія абазначаюць выдзеленыя літары.

Якія гэта гукі: звонкія ці глухія?

Замяніце звонкія зычныя гукі парнымі глухімі і запішыце атрыманыя пары слоў. Падкрэсліце літары, якімі адрозніваюцца гэтыя пары слоў.

## Правапіс слоў з парнымі зычнымі гукамі на канцы слова



Ці можна на слых вызначыць, якой літарай трэба абазначыць парны зычны гук на канцы слова?

Як праверыць напісанне слоў з парным зычным гукам на канцы слова?

**209.** Вымавіце словы. Які гук вы чуеце на канцы слова: звонкі ці глухі?

[п] [т] [с] [х] [ш] [ч]

Бо**б**, го**д**, бэ**з**, лу**г**, но**ж**, дож**дж**.



На канцы слова парныя зычныя гукі вымаўляюцца глуха.

**210.** Прачытайце.



[п]

У Колі разбалеўся зу**б**.

[п]

Ён не можа есці су**п**.

Адкажыце на пытанні.

1. Які гук вы чуеце на канцы слова *зуб*? Які — на канцы слова *суп*?

2. Чаму рознымі літарамі абазначаны гук [п]?

**211.** Прачытайце пары слоў. Параўнайце гучанне зычных на канцы слова і перад галосным.

Сця**г** — сця**г**і, гора**д** — гара**д**ы, ска**з** — ска**з**ы, ву**ж** — ву**ж**ы, гры**б** — гры**б**ы.



Абазначэнне на пісьме парнага зычнага гука на канцы слова трэба правяраць. Для праверкі трэба змяніць слова так, каб пасля зычнага стаяў галосны гук: ***сад — сады, чыж — чыжы.***

**212.** Прачытайце назвы жывёл. Якой літарай патрэбна абазначыць апошні гук у кожным слове?


ко[т]


насаро[х]


ву[ш]


голу[п]

Як праверыць літару парнага зычнага гука на канцы слова?

1. Калі слова абазначае адзін прадмет, назавіце слова, якое абазначае многа такіх прадметаў: *адзін гры*[п] — *гры*[б]*ы* — *грыб*.

2. Калі слова абазначае многа прадметаў, назавіце слова, якое абазначае адзін такі прадмет: *многа бяро*[с] — *бяро*[з]*а* — *многа бяроз*.

**213.** Спішыце, выберыце з дужак патрэбныя літары.

Сасновы ле*(с/з)*, магутны ду*(б/п)*, шмат яга*(д/т)*, ядомы гры*(б/п)*, спелы арэ*(г/х)*, малы кус*(т/д)*.

**214.** Змяніце словы так, каб апошні зычны гук вымаўляўся выразна.

*Снег* — *снягі*, холад — ..., мароз — ... .

Запішыце. Падкрэсліце ў словах літары, напісанне якіх трэба правяраць.



**215.** Прачытайце. У кожнай пары сказаў знайдзіце словы, якія вымаўляюцца аднолькава.

Лес ціха шумеў. Мядзведзь лез на дрэва па мёд.

Плод яблыні — яблык. Вераб'і селі на плот.

Выпішыце словы, якія адрозніваюцца толькі апошнімі літарамі.



Якія словы з'яўляюцца праверачнымі?

**216.** Прачытайце. Выпішыце тыя словы, напісанне якіх трэба правяраць.

Сказ, завод, дом, жолуд, слон, зубр, кот, ветразь.

**217.** Прачытайце. Напісанне якіх слоў трэба праверыць? Якія словы могуць быць праверачнымі?

| | |
|---|---|
| горад | голуб |
| гарады | галубы |
| гарадок | галубок |



***Праверачнае слова*** — гэта слова, у якім парны зычны гук знаходзіцца перад галосным: *плугі, лясы*.

**218.** Прачытайце сказы.

Коля і Каця пайшлі ў грыбы. Самы вялікі гры.. знайшла Каця. А Коля знайшоў шмат маленькіх грыбочкаў.

Спішыце сказы. Устаўце прапушчаную літару. Растлумачце, як вы даведаліся, якую літару трэба ўставіць.

**219.** Запішыце назвы грыбоў у алфавітным парадку. (Назвы грыбоў глядзіце ў слоўніку на с. 130.)



Пастаўце ў словах націск, падкрэсліце першы склад перад націскам.



**220.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары.

Кругі — кру.., шалашы — шала.., грузы — гру.., дразды — дроз.., масты — мос.., гаражы — гара.. .

**221.** Прачытайце. Якія літары прапушчаны ў словах?

*Звонкі (галасы) голас*, зялёны лу.., ласіны сле.., салодкі мё.., яблыневы са.., вялікі гарбу.., жытнёвы кола.., белы лебе..ь.

Спішыце. Устаўце прапушчаныя літары. У дужках напішыце праверачныя словы.

**222.** Прачытайце сказы.

На дварэ лютуе мароз. Лёд скаваў рэкі. Белай коўдрай лёг пушысты снег.

Напішыце пад дыктоўку. Падкрэсліце ў словах літары зычных гукаў, напісанне якіх трэба правяраць.

**223.** Выразна вымавіце словы. Параўнайце, як у іх вымаўляецца апошні зычны гук.

сне**г** — сме**х**
но**ж** — ко**ш**
кра**б** — кро**п**
ву**ж** — ду**ш**

кры**ж** — мы**ш**
лу**г** — ру**х**
шакала**д** — самака**т**
піро**г** — гаро**х**

Спішыце адзін слупок слоў. Над выдзеленымі літарамі ў квадратных дужках абазначце гукі.

[х] [х]

У з о р: *рог* — *мох*.

**224.** Прачытайце і назавіце словы, у якіх вымаўленне апошняга зычнага гука разыходзіцца з напісаннем.

Свежы хлеб смачна пахне.
Дуб — прыгожае дрэва.
Пад дубам вырас вялікі грыб.
Мама спякла смачны пірог.
Хутка пойдзе дождж.
На градзе вырас вялікі гарбуз.

Выпішыце словы з парнымі звонкімі і глухімі гукамі на канцы. Літары парных гукаў падкрэсліце.



**225.** Разгледзьце малюнак.



Адкажыце на пытанні.

1. Чым занята мама?
2. Хто ёй дапамагае?
3. Што робяць дзеці?

*пыласо́с*

Раскажыце, як вы дапамагаеце бацькам.



**226.** Прачытайце загадку. Напішыце адгадку. Падкрэсліце літару, напісанне якой трэба правяраць.

Ён не слон, а хобат мае,
пыл і смецце ім збірае.

# Правапіс слоў з парнымі зычнымі гукамі ў сярэдзіне слова



У якіх выпадках правяраецца напісанне слоў з парнымі зычнымі гукамі ў сярэдзіне слова?

Як гэта рабіць?

**227.** Прачытайце. Як вымаўляюцца зычныя гукі, абазначаныя выдзеленымі літарамі? Звярніце ўвагу на тое, які гук ідзе за парным зычным.

Бяро**з**кі, мала**ц**ьба, гры**б**кі, сырае**ж**кі, яга**д**кі, ка**с**ьба, ду**б**кі.

**228.** Прачытайце спалучэнні слоў пад малюнкамі. Які гук чуецца на месцы пропускаў?



[с]

ка..кі будаўнікоў




[с]

цікавыя ка..кі

Якую літару трэба напісаць у кожным слове?



Як даведацца, якой літарай абазначыць на пісьме парны зычны гук у сярэдзіне слова?

Трэба змяніць слова так, каб пасля зычнага гука стаяў галосны: *ду?кі — дубы — дубкі, сту?ка — (няма) стужак — стужка.*

**229.** Спішыце спалучэнні слоў з правага слупка. Устаўце прапушчаныя літары.

| | |
|---|---|
| многа шышак | адна шы..ка |
| многа бярозак | адна бяро..ка |
| адзін грыбок | многа гры..коў |
| многа сыраежак | адна сырае..ка |

**230.** Прачытайце. Напісанне якіх літар трэба праверыць? Выберыце праверачныя словы.

Рыбка *(рыба, рыбкі, рыбакі)*.
Казка *(казкі, ка́зачкі, казачнік)*.
Сцежка *(сцяжынка, сцежкі, сцежачка)*.
Міска *(міскі, місачкі)*.

**231.** Прачытайце. Якія літары трэба ўставіць? Падбярыце праверачныя словы.

Пту*(ж/ш)*ка, дзю*(б/п)*ка, вё*(з/с)*ка, паво*(з/с)*ка, усме*(ш/ж)*ка, дзя*(дз/ц)*ька.

Запішыце словы.



**232.** Спішыце сказ. Устаўце прапушчаныя літары. У дужках запішыце праверачныя словы.

Жураўлі ляцяць (...) ні..ка — зіма (...) блі..ка.

**233.** Прачытайце сказы. З якой яны казкі? Назавіце гукі, якія абазначаны выдзеленымі літарамі. Як праверыць напісанне слоў з парнымі звонкімі і глухімі гукамі?

Вырасла рэ**п**ка вялікая-вялікая. Паклікаў дзе**д**ка ба**б**ку.

Дзе**д**ка за рэ**п**ку, ба**б**ка за дзе**д**ку. Цягнуць, цягнуць — выцягнуць не могуць.

Запішыце словы з выдзеленымі літарамі разам з праверачнымі. Падкрэсліце літары, напісанне якіх вы праверылі.



**234.** Прачытайце пачатак казкі. Прыдумайце яе працяг.

### Хмарка

Жыла-была маленькая хмарка. Аднойчы яна праплывала ні..ка над дзіцячым са..ком. Там дзеці пускалі сонечных зайчыкаў...

Спішыце пачатак казкі. Устаўце прапушчаныя літары. Падбярыце праверачныя словы.



**235.** Прачытайце. Якія літары прапушчаны? Падбярыце праверачныя словы.

Лы..ка, бу..ка, дзя..ька, ука..ка, ло..ка, паво..ка, паду..ка.

Запішыце словы па ўзоры. Падкрэсліце літары, якія вы ўставілі.

У з о р: *загадаць — загадка.*

**236.** Прачытайце словы. Якія гукі «згубіліся»? Якімі літарамі вы іх абазначыце? Запішыце словы.

Сало..кі, лё..кі, ні..кі, блі..кі, рэ..кі.

**237.** Прачытайце. Для чаго, на вашу думку, патрэбны бібліятэкі?

*бібліятэ́ка*

## Бібліятэка

Бібліятэка — гэта гора*(д/т)* кні*(х/г)*. А стэлажы — вуліцы гэтага гара*(д/т)*-ка. Кожная кні*(ж/ш)*ка жыве на сваёй палічцы. Вось тут жывуць ка*(з/с)*кі. Побач пасяліліся прыка*(з/с)*кі, прымаўкі, зага*(д/т)*кі.

Выпішыце словы з парнымі звонкімі і глухімі зычнымі гукамі. Падбярыце праверачныя словы.

**238.** Прачытайце. Выберыце ў дужках словы, якія з’яўляюцца праверачнымі.

Птушка — *(птушачка, птушкі)*, бярозка — *(бярозы, бярозкі)*, градка — *(градкі, града)*, хатка — *(хаткі, хата)*, чародка — *(чародкі, чарада)*, лапка — *(лапа, лапкі)*.

Запішыце словы парамі па ўзоры.

У з о р: *птушачка — птушка.*



**239.** Спішыце словы. Устаўце прапушчаную літару ***б*** або ***п***.

Прышчэ..ка, ба..ка, рэ..ка, ша..ка, галу..ка, ла..ка, гу..ка, жа..ка.

## Падоўжаныя зычныя гукі



Як абазначаецца падаўжэнне зычных гукаў на пісьме?

**240.** Прачытайце пары слоў. Параўнайце іх вымаўленне. У якіх словах гукі вымаўляюцца падоўжана?

Жыць — жы**цц**ё, пала**з**ы — пало**зз**е, навока**л** — навако**лл**е.

**241.** Прачытайце словы. Гукі, абазначаныя дзвюма аднолькавымі літарамі, вымаўляйце як адзін падоўжаны гук.

Кало**сс**е, мя**кк**і, узбярэ**жж**а, заці**шш**а, насе**нн**е, раздо**лл**е, бага**цц**е, сме**цц**е, лама**чч**а, вучэ**нн**е.

**242.** Разгледзьце малюнак. Раскажыце, як трэба пераходзіць вуліцу.



Словы для выкарыстання: *пешаход, святлафор, правілы дарожнага руху, пераход.*

**243.** Прачытайце словы. Правільна вымаўляйце падоўжаныя зычныя гукі.

Карэнне, вуголле, пытанне, тлумачэнне, крылле, каменне, Палессе.

Запішыце словы ў алфавітным парадку. Падкрэсліце літары, якімі абазначаны падоўжаныя зычныя гукі.

Растлумачце напісанне галосных літар ***о, э—а*** ў словах *корань* — *карэнне*.



Зычныя гукі [з’], [с’], [дз’], [ц’], [л’], [н’], [ж], [ч], [ш] паміж галоснымі ў словах могуць падаўжацца.

Падоўжаныя зычныя гукі на пісьме абазначаюцца дзвюма літарамі: *жыццё, насенне, падарожжа, узвышша, узлессе, наваколле*.

Падоўжаны гук [дз’] абазначаецца літарамі ***ддз***: *асяроддзе, суддзя, пайгоддзе*.

**244.** Складзіце сказы з прапанаваных слоў.

Рыгорка, зада..е, добра, падрыхтаваў, дамашняе.

Хлопчык, тлумачэ..е, уважліва, настаўніка, слухае.

На, адказаў, усе, правільна, Рыгорка, пыта..і.

Хлопчык, вучы́цца, стара..а, імкнецца.

Запішыце сказы, замест кропак устаўце патрэбныя літары. Успомніце правіла напісання літары ***ў***.



**245.** Прачытайце. Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары.

Гук падоўжаны — не забывайце —
праз дзве літары передавайце:
жы..ё, ра..я, кало..е, ра..е,
бага..е, збо..а, назіра..е.




**246.** Прачытайце прыказкі. Як вы іх разумееце? Якія гукі ў словах вымаўляюцца падоўжана?

Праца — крыніца бага..я.
Не збярэш з поля каме..я, не атрымаеш насе..я.

Спішыце. Устаўце прапушчаныя літары.

**247.** Прачытайце. Назавіце словы з супрацьлеглым значэннем.

| | |
|---|---|
| спакой | зацішша |
| шум | пытанне |
| адказ | хваляванне |

Запішыце словы парамі. Падкрэсліце літары, якімі абазначаны падоўжаныя гукі.

У з о р: *разлука — спатканне.*

**248.** Прачытайце. Да дадзеных слоў падбярыце словы з падоўжанымі зычнымі гукамі.

*Чытаць — чытанне*, маляваць, купаць, спаткаць, вязаць, адчуваць, жадаць.
*Шыць — шыццё*, выць, мыць, жыць.

Запішыце 5 слоў з падоўжанымі зычнымі. Падкрэсліце ў іх літары, якімі абазначаны падоўжаныя гукі.



Словы з падоўжанымі зычнымі гукамі можна пераносіць так: ***чытан-не**, **чыта-нне**, **вясел-ле**, **вясе-лле**, **ста-год-дзе**, **стаго-ддзе**.*

**249.** Прачытайце. Назавіце словы з падоўжанымі зычнымі гукамі.

Збажына — збожжа, лес — узлессе, каласы — калоссе, палазы — палоззе, цішыня — зацішша, убор — убранне, бераг — узбярэжжа.

Выпішыце словы з падоўжанымі зычнымі, падзяляючы іх для пераносу.



**250.** Спішыце словы, устаўляючы патрэбныя літары.

Адзе..е, разво..е, заці..а, навако..е, зада..е, жы..ё.

шш ддз лл нн цц



## Віншаванне

*свя́та*

**251.** Прачытайце тэкст.

### Дзень нараджэння

Колю споўнілася восем гадоў. На дзень нараджэння прыйшлі сябры. Яны прынеслі падарункі. Дзяўчынкі падарылі цікавую кнігу, а хлопчыкі — шахматы. Дзеці слухалі музыку, спявалі, гулялі. Пасля пілі чай з пячэннем, тортам, цукеркамі.

Усім было весела.




Калі людзі віншуюць адзін аднаго?



**252.** Раскажыце пра сябе. Адкажыце на пытанні.

1. Калі ў цябе дзень нараджэння?
2. Каго ты запрашаў на мінулы дзень нараджэння?
3. Чым запомніўся табе гэты дзень нараджэння?

**253.** Разгледзьце віншавальную паштоўку. З якім святам віншуе Галя сваю сяброўку?




Падпішыце віншавальную паштоўку свайму сябру (сяброўцы).



**254.** Прачытайце верш. Вывучыце яго на памяць і раскажыце маме.

Віншую са святам
цябе, дарагая!
З табою шчаслівы
заўсёды я.

Моцна і шчыра
цябе абдымаю,
добрая, мілая
мама мая.

*У. Місун.*

Як у вершы аўтар называе маму? Запішыце гэтыя словы.

## Апостраф і раздзяляльны мяккі знак



На што паказваюць апостраф *(’)* і раздзяляльны мяккі знак *(ь)* на пісьме?

Калі пішацца апостраф?

**255.** Прачытайце словы, звярніце ўвагу на вымаўленне гукаў, абазначаных выдзеленымі літарамі.

[э] — [й’э]

на дварэ — надвор’е

[о] — [й’о]

лён — паштальён

Апостраф і раздзяляльны мяккі знак папярэджваюць аб прысутнасці ў слове гука [й’].

[й’о] [й’а] [й’а]

Напрыклад: *аб’ём, з’ява, більярд*.

**256.** Прачытайце. Як вымаўляюцца гукі, абазначаныя выдзеленымі літарамі: цвёрда ці мякка?

**П**есня — **п**’е, **б**егаць — **б**’е, з**б**іраць — вера**б**’і, **п**яць — **п**’яўка, па**р**ог — звя**р**’ё, **в**угал — інтэр**в**’ю.

Запішыце словы з апострафам.



Апостраф ставіцца пасля літар, якія абазначаюць цвёрдыя зычныя гукі, перад ***е, ё, ю, я, і***, калі яны абазначаюць два гукі: *пер’**е**, пад’**ё**м, камп’**ю**тар, з’**я**ва, вераб’**і**ны*.

Пасля ***ў (у нескладовага)*** апостраф не ставіцца: *касто**ўе**, сала**ўі***.

**257.** Прачытайце сказы. Выдзеленыя словы параўнайце па вымаўленні і напісанні.

Дар'і няма яшчэ **сям..і** гадоў.
Усе ў нашай **сям..і** любяць жывёл.

Спішыце сказы. Устаўце, дзе трэба, апостраф.

**258.** Прачытайце. У якіх словах трэба паставіць апостраф?

аб?ед — аб?езд
вераб?ей — вераб?і
п?ячэнне — п?яўка
камп?от — кап?ё
зор?ы — сузор?е
сем?я — сям?я

Запішыце словы з апострафам.

**259.** Прачытайце спалучэнні слоў. У якіх словах патрэбна ўставіць апостраф?

Новая аб..ява, галасістыя салаў..і, вёрткі ў..юн, зрокавыя ў..яўленні, добрае здароў..е, зялёнае шчаў..е, хуткі пад..ём.

Спішыце, устаўляючы, дзе трэба, апостраф.



**260.** Прачытайце тэкст.

Павеялі паўночныя халодныя вятры. Многія птушкі паляцелі ў вырай. А вераб'і цёплае жыллё пачалі шукаць. Агледзелі шпакоўню: вялікая хатка, на ўсю сям'ю хопіць. Уцяплілі яе курыным пер'ем. Цяпер не страшна вераб'ям марознае надвор'е *(Паводле В. Гурскага)*.

Выпішыце словы з апострафам.



Калі пішацца раздзяляльны мяккі знак *(ь)*?

**261.** Прачытайце. Як вымаўляюцца гукі, абазначаныя выдзеленымі літарамі: цвёрда ці мякка? На што ўказвае ***ь*** у словах?

Пашта**льё**н, **лье**, гры**лья**ж, Марэ**сье**ў, Ка**сья**наў, Ве**нья**мін.

Спішыце. Падкрэсліце ў словах літары, якія абазначаюць два гукі.



Раздзяляльны мяккі знак ***(ь)*** пішацца пасля літар, якія абазначаюць мяккія зычныя гукі, перад ***е, ё, ю, я, і***, калі яны абазначаюць два гукі: *атэл**ье***, *міл**ьё**н*, *нал**ью***, *Гена**дзье**віч*, *У**лья**на*, *Ана**нье**ў*.

**262.** Прачытайце загадку. Напішыце адгадку.

Не ў бары расце — у садзе,
як маленькі парасон,
грыб няхітры, вельмі смачны,
з гучнай назвай ... .

*М. Пазнякоў.*




**263.** Прачытайце. Выдзеленыя словы параўнайце па вымаўленні і напісанні.

Я **палю** моркву.
Я **палью** моркву.
Я **салю** бульбу.
Я **салью** ваду, калі бульба зварыцца.

Напішыце сказы. Падкрэсліце словы з раздзяляльным мяккім знакам.

**264.** Прачытайце словы. Што абазначае ў іх мяккі знак: мяккасць папярэдняга зычнага гука ці раздзельнае вымаўленне зычнага і наступнага гука [й']?

Каменьчык, Ульянаў, Кузьма, бульба, вузенькі, мільярд, барацьба, парцьера, восьмы.

Выпішыце словы з раздзяляльным ***ь***.

**265.** Прачытайце. Выпішыце словы з раздзяляльнымі знакамі.

Дзьмулі моцныя вятры, гналі з узмор'я хмары.
У паднябессі льецца звонкі галасок жаваранка.

**266.** Прачытайце загадкі і адгадайце іх. Якія раздзяляльныя знакі прапушчаны ў словах?



Адзін л..е, другі п..е,
трэці зелянее ды расце.

Хто мяне заб..е, той сваю кроў прал..е.



Спішыце сказы, устаўляючы прапушчаныя раздзяляльныя знакі.



**267.** Спішыце. Падкрэсліце слова з раздзяляльным ***ь***.

Эх, як весела бруіцца,
льецца, булькае вадзіца.
*А. Александровіч.*

**268.** Прачытайце. Якія раздзяляльныя знакі трэба ўставіць у словы?

Аб..ява, аб..езд, Васіл..евіч, біл..ярд, кап..ё, надвор..е, пад..ём, л..ецца, б..ём, Дар..я, Арсен..евіч, Іл..ін, Афанас..евіч, вераб..і, бур..ян, сур..ёзны.

Выпішыце словы, у якіх трэба ўставіць раздзяляльны мяккі знак.



**269.** Разгледзьце малюнкі.









Складзіце невялікае апавяданне.

Словы для выкарыстання: *чародка верабʼёў, паласавацца, падкраўся, схапіў за хвост, перʼе*.

**270.** Прачытайце загадку і адгадайце яе. Назавіце гукі ў выдзеленым слове.



Ненасытны гэты з'есці
можа ўсё на свеце.
А **нап'ецца** ён вады —
памірае ўміг тады.

*М. Пазнякоў.*

Спішыце загадку. Напішыце адгадку.



**271.** Прачытайце тэкст. Выпішыце словы з апострафам і раздзяляльным мяккім знакам.

**Наша сям'я**

У нас дружная сям'я. Мой бацька Ілья Пятровіч працуе на трактарным заводзе. Маму завуць Ганна Юр'еўна. Яна працуе бібліятэкарам. Я вучуся ў школе. Сястрычка Надзейка яшчэ малая. Яна ходзіць у дзіцячы садок. Вечарамі мы збіраемся ў вялікім пакоі і чытаем.

Падрыхтуйцеся расказаць пра сваю сям'ю.

## Праверце сябе

**1.** Спішыце словы. Падкрэсліце літары, якімі яны адрозніваюцца.

Ліпа — лапа, Рома — рама.

**2.** Размясціце словы ў алфавітным парадку.

Журавіны, суніцы, брусніцы, ажыны, агрэст, буякі.

**3.** Колькі складоў у словах?

Алег, Юлія, Яніна, Іван.

Якія з гэтых слоў нельга пераносіць? Чаму?

**4.** Назавіце словы, у якіх націск падае на другі склад.

Крэйда, дошка, званок, вучаніца, ранец, настаўнік.

**5.** Назавіце ў словах першы склад перад націскам.

Зямля, мяцеліца, беражок, лядок.

**6.** Якую літару трэба ўставіць замест кропак? Растлумачце чаму.

Л..нок не любіць л..ноты.

**7.** Прачытайце. Якімі літарамі абазначана мяккасць зычных гукаў у словах? Напісанне якіх слоў патрабуе праверкі?

Карагод завірух дзень і ноч лятае.
Белы снег, быццам пух, далі замятае.

*У. Мазго.*

**8.** Да якіх слоў няправільна падабраны праверачныя словы? Падбярыце і запішыце праверачныя словы правільна.

Птушка — птушачка, хатка — хаткі, дубкі — дубок, градкі — градка.

**9.** У якіх словах прапушчаны апостраф, а ў якіх — раздзяляльны мяккі знак?

Пад..езд, л..ецца, Дзям..ян, камп..ютар, медал..ён.

# СЛОЎНІК

## Сям’я

бабу́ля
брат
дачка́
дзяду́ля
ма́ма
праба́бка
пра́дзед
сын
сястра́
та́та
уну́к
уну́чка

## Школа

ало́вак
ву́чань
кані́кулы
клас
кні́га
наста́ўніца
падру́чнік
пена́л
перапы́нак
сшы́так
уро́к
чвэрць

## Дні тыдня

панядзе́лак
аўто́рак
серада́
чацве́р
пя́тніца
субо́та
нядзе́ля

## Назвы месяцаў

сту́дзень
лю́ты
сакаві́к
красаві́к
май
чэ́рвень
лі́пень
жні́вень
ве́расень
кастры́чнік
лістапа́д
сне́жань

## Гарады Беларусі

Бабру́йск
Бара́навічы
Брэст
Ві́цебск
Го́мель
Гро́дна
Жо́дзіна
Івацэ́вічы
Магілёў
Мазы́р
Мінск
Пінск
По́лацк
Саліго́рск

## Рэкі і азёры Беларусі

Брасла́ўскія азёры
Бярэ́зіна
Гары́нь
Дзвіна́
Дняпро́
На́рач
Нёман
Пры́пяць
Сві́слач
Сві́цязь

## Агароднiна і садавiна

агуро́к
бура́к
капу́ста
кроп
мо́рква
памідо́р
рэ́дзька
сала́та
цыбу́ля
чарэ́шня
часно́к
я́блык

## Ягады і грыбы

агрэ́ст
ажы́ны
апе́нька
бараві́к
брусні́цы
буякі́
жураві́ны
лісі́чка
малі́ны
масля́к
мухамо́р
падасі́навік
падбяро́завік
ры́жык
суні́цы
сырае́жка
чарні́цы
шампіньён

## Зерневыя культуры

авёс
грэ́чка
жы́та
про́са
пшані́ца
ячме́нь

## Дрэвы і кусты

але́шына (во́льха)
арэ́шына (ляшчы́на)
асі́на
бяро́за
ві́шня
вярба́
гру́ша
дуб
е́лка
клён
лаза́
лі́па
малі́на
парэ́чкі
рабі́на
сасна́
слі́ва
я́блыня

## Дзікія звяры

але́нь
бабёр
барсу́к
вавёрка
во́жык
воўк
дзік
за́яц
зубр
казу́ля
лісі́ца
лось
мядзве́дзь
рысь

## Дзікія птушкі

аўся́нка
бу́сел
варо́на
вераб́ей
го́луб
дзя́цел
дрозд
жа́варанак
жураве́ль
зязю́ля
каршу́н
крыжадзю́б
ла́стаўка
сава́
салаве́й
саро́ка
сіні́ца
снягі́р
со́кал
шпак

## Адзенне і абутак

бо́ты
валёнкі
кажу́х
касцю́м
кашу́ля
ку́ртка
паліто́
сарафа́н
спадні́ца
суке́нка
ту́флі
хала́т
чараві́кі
штаны́

# ЗМЕСТ

## Родная мова



## Гукі і літары

